



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

27 ліпеня 2018 года №30 (1213)


**Жук-караед апанаваў лясы Маладзечаншчыны. Як у лясгасе змагаюцца са шкоднікам?**



старонка 2

**Хлеб, цукеркі, алей, гарадская кілбаса... Што купляюць вяскоўцы ў аўталаўцы?**



старонка 17

**На Маладзечаншчыне, у Турэц-Баярах, здымалі мастацкі фільм «Чарнобыль».**



старонка 18

# Археолагі памыліліся: «курганы» ў Нясцёрках – звычайныя ўзгоркі

**Летнік пераехаў на Мядзельшчыну, у Наўры**

старонкі 20-21

Фота з суполкі vk.com/leta2k18.



ISSN 1991–7155

9 771991 715006 30

Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Амаль палова месячнай нормы ападкаў выпала 23 ліпеня на Нарачы

**МЯДЗЕЛ**

Больш за ўсё ападкаў днём 23 ліпеня выпала на Нарачы – 34 мм. Гэта амаль палова месячнай нормы, паведамілі ў Рэспубліканскім цэнтры па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя Мінпрыроды.

**Паводле БелТА.**

## Памёр Генадзь Касцевіч – намеснік старшыні Вілейскага райвыканкама

**ВІЛЕЙКА**

Генадзь Міраслававіч памёр раніцай 23 ліпеня ў Вілейцы.

Ён працаваў намеснікам старшыні Вілейскага райвыканкама. Курыраваў пытанні эканомікі, падаткаў, грашова-крэдытнай палітыкі і іншыя.

Таксама **Генадзь Касцевіч** быў намеснікам старшыні Вілейскага раённага Савета дэпутатаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Новую дзіцячую пляцоўку ўсталююць на вуліцы Талстога

**ВІЛЕЙКА**

23 ліпеня пачалі ўстанаўліваць першыя элементы новай дзіцячай пляцоўкі па вуліцы Льва Талстога ў Вілейцы.

Пляцоўка размесціцца ў двары дамоў №№38 і 40 у рамках планавага капітальнага рамонту за сродкі з мясцовага бюджэту, паведамляюць у суполцы інфармацыйнага цэнтра аб працы камунальных службаў.

Тут будуць гульнявыя і спартыўныя элементы як для маленькіх дзяцей, так і для падлеткаў. Яны на пляцоўцы змогуць займацца вулічнай гімнастыкай.

Заказчык – Вілейская ЖКГ.

**Аддзел інфармацыі.**

## Правялі абласныя спаборніцтвы па выратавальным шматбор'і

**МЯДЗЕЛ**

13 ліпеня на базе Мядзельскай выратавальнай станцыі праводзілі абласныя спаборніцтвы па выратавальным шматбор'і.

Удзельнічалі каманды прафесійных выратавальнікаў, а таксама каманды дружынніцкаў раённых арганізацый выратавання на вадзе.

Удзельнікі спаборнічалі ў шматбор'і: плаванні, кіданні выратавальнага круга, буксіроўцы манекена-«тапельца».

Конкурс «выхад выратавальнага катара» быў толькі для прафесійных выратавальнікаў.

Па выніках спаборніцтваў, сярод прафесіяналаў па шматбор'і другое месца занялі выратавальнікі з Нарачы, трэцяе – віляйчане.

Сярод дружынніцкаў арганізацый выратавання на вадзе таксама перамаглі Нарач (2 месца) і Вілейка (3 месца).

У конкурсе «Выхад выратавальнага катара» першымі сталі выратавальнікі са станцыі «Зубраня», трэцімі – віляйчане.

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» распавёў начальнік Мядзельскай выратавальнай станцыі **Дзмітры Дамшэль.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Старшыня Вілейскага райвыканкама правядзе «прамую лінію»

**ВІЛЕЙКА**

У суботу, 28 ліпеня, правядуць «прамую тэлефонную лінію» са старшынёй Вілейскага райвыканкама **Віктарам Катом**.

Пытанні можна задаваць па тэлефоне **8 (01771) 5-52-41** ад 9:00 да 12:00, паведамляюць на сайце Вілейскага райвыканкама.

**Паводле сайта Вілейскага райвыканкама.**

## Камісія па працаўладкаванні прымае беспрацоўных два разы на месяц

**МАЛАДЗЕЧНА**

За май-чэрвень на камісію па працаўладкаванні запрасілі 37 беспрацоўных.

На пасяджэнне прыйшлі 28 з іх. 22 чалавекі накіравалі на працаўладкаванне. Шасцёра запрашаных адмовіліся ад дапамогі.

Камісія праводзіць пасяджэнні кожны другі і чацвёрты чацвер месяца ў будынку ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама па вуліцы **Прытыцкага**, **5**, пачатак – у 15:00.

**Паводле сайта Маладзечанскага райвыканкама.**



Такія шкоднікі прыгожую зялёную сасну ператвараюць у рудую.

# З-за караеда спілавалі каля 10 гектараў лесу

## Што расказалі жыхарам Заскавічаў супрацоўнікі Маладзечанскага лясгаса

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Пра тое, што маладзечанскія лясы пачынаюць цярпець ад жука-караеда, распавялі супрацоўнікі Маладзечанскага лясгаса на сустрэчы з жыхарамі Заскавічаў.**

Чаму старшыня Лебедзеўскага сельвыканкама **Тамара Дудзіч** вырашыла запрасіць сюды лясгас? Нядаўна, пачуўшы гук пілаў у бліжэйшым лесе, жыхары Заскавічаў пачалі ўзрушацца. Чаму леснікі пілуюць быццам бы здаровы зялёны лес?

### Караед прыйшоў з поўдня Беларусі

На пытанні неабыякавых вяскоўцаў адказвалі запрошаныя на сустрэчу **Анатоль Ермаловіч**, дырэктар Маладзечанскага лясгаса, і **Андрэй Шыбека**, галоўны ляснічы установы.

– Праблемай высыхання сасновых лясоў заклапочаныя нашы калегі ва ўсёй Беларусі, – пачаў сустрэчу Анатоль Ермаловіч. – Пачыналася ўсё на поўдні: у Гомелі, Брэсце. Нашы лесаводы ўжо тры гады дома не бываюць, увесь час ездзяць па камандзіроўках, ратуюць лясы ад караеда ў Старобіне, Петрыкаве, Капылі, Старых Дарогах. Нельга сказаць, што мы не чакалі гэтай навалы.

Лесаводы Маладзечаншчыны з караедам сутыкнуліся ўжо ў 2017 годзе. Сёлета праблема стала больш маштабнай. І, па папярэдніх прагнозах, будзе набіраць абароты.

### Рудыя сосны – адпрацаваны матэрыял

Самае складанае, тлумачыў дырэктар лясгаса, знайсці дрэва, на якім жыве караед. Цяпер спецыялісты ідуць па слядах шкодніка. Рудыя сухія сосны, якія мы часам бачым у лесе, гэта дрэвы, якія найменей пацярпелі ад караеда – адпрацаваны матэрыял. Шкоднік з іх сышоў. Таму лесаводы выбіраюць зяленыя аслабленыя дрэвы побач, на якія засяліўся караед.

– Ледзь не кожны дзень нам тэлефануюць жыхары Заскавічаў са скаргамі, што мы пілуем здаровы зялёны лес, а не рудыя сосны. А мы ж не менш, чым мясцовыя жыхары, клапоцімся пра тое, каб захаваць лес. Санітарная высечка – пакуль адзіны самы дзейсны варыянт барацьбы са шкоднікам. У першую чаргу пілуем зялёныя аслабленыя сосны, бо шкоднік – на іх. Спілоўванне рудых дрэў можна адкласці, – тлумачыў прысутным Анатоль Ермаловіч. – Таму ведайце: калі ў лесе працуе піла, яна працуе па прызначэнні.

### Усыхаюць сосны – асноўная лесаўтваральная парода на Маладзечаншчыне

Па словах Анатоля Аляксеевіча, змагаючыся з караедам, работнікі лясгаса ўжо спілавалі каля дзесяці гектараў лесу. Гэта не так няшмат, калі параўноўваць з петрыкаўскімі лясамі, дзе сотні гектараў суцэльных высечак. Санітарную рубку праводзяць на тэрыторыі ўсяго лясгаса. Спілаванае дрэва ў максімальна карокі тэрмін вывозяць з дзялянкі, а пакінутыя рэштکі спальваюць. Даждлівае надвор'е спрыяе рабіць гэта бяспечна.

– Мы заклапочаныя тым, што ўсыхаюць сосны – асноўная лесаўтваральная парода дрэў на Маладзечаншчыне, – далучыўся да размовы галоўны ляснічы Маладзечанскага лясгаса **Андрэй Шыбека**.

Ён крыху распавёў жыхарам Заскавічаў, чым страшны караед для навакольных лясоў.



Дырэктар Маладзечанскага лясгаса Анатоль Ермаловіч.

### Жука ў чатыры міліметры заўважыць няпроста

Шкоднік пасяляецца на аслабленых дрэвах. Здаровым ён асабліва не страшны, бо тыя могуць заліць яго смалой. І ўсё ж, калі колькасць становіцца вялікай, і здаровае дрэва з караедамі справіцца не можа: проста не паспявае выдзяляць смалу. Таму асноўная задача лесаводаў - не даць развіцца вялікай колькасці шкоднікаў.

Па словах Андрэя Шыбекі, з таго моманту, як караед пасяліўся на дрэве, у работнікаў лясгаса ёсць 21 дзень, каб паспець спілаваць сасну, з якой на суседнія дрэвы можа вылецець новае пакаленне шкоднікаў.

Заўважыць караеда складана. Ён ідзе зверху дрэва, да таго ж жукі вельмі маленькія – каля чатырох міліметраў у даўжыню.

### Затое стала лягчэй выпісаць дровы

Дастаткова дзейсных хімічных сродкаў у барацьбе з караедам няма. Існуюць спецыяльныя пасткі. У іх наліваюць ферамон – рэчыва, якое нагадвае пах сасны, і размяшчаюць на дрэве. Але такія прыстасаванні разлічаныя прыкладна на 10 тысяч шкоднікаў, а іх можа быць у два разы больш толькі на адным дрэве.

– Пакуль сасновых шкоднікаў мы лічым штукамі, а не запалкавымі карабкамі, як на поўдні Беларусі, – адзначыў Андрэй Мікалаевіч.

Па словах кіраўнікоў лясгаса, цяпер, калі караед шкодзіць дрэвы, людзям прасцей выпісаць дровы. Для гэтага супрацоўнікі лясгаса выдзяляюць рудыя сосны. Заказчыку даюць дзялянку і ён самастойна можа нарыхтаваць сабе дроў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Ягады і грыбы трэба збіраць правільна


Фота Таццяны КАСЬЯН.

Грыбы на рынку ў Маладзечне.

**За парушэнне правілаў нарыхтоўкі, збору ці закупкі дзікарослых раслін або іх частак папярэджваюць ці даюць штраф да 20 базавых велічынь.**

– Паводле Лясного кодэкса людзі могуць без дазвальняльных дакументаў і бясплатна збіраць для сябе дзікарослыя ягады і грыбы. Але так, каб не шкодзіць ягаднікі, не знішчаць іх. Пры зборы і нарыхтоўцы грыбоў трэба захоўваць грыбніцу. Грыбы неабходна зразаць нажом або выкручваць. Разграбанне ляснога падсцілу для зборy забараняецца, – нагадаў на прэс-канферэнцыі аб правілах збору грыбоў і ягад у Беларусі **Аляксандр Угрын**, кансультант упраўлення лясной гаспадаркі Міністэрства лясной гаспадаркі.

Штогод аблвыканкамы ўсталёўваюць тэрміны пачатку збору брусніцаў і журавінаў.

Сёлета за парушэнне правілаў дзяржаўная лясная ахова прыцягнула да адміністрацыйнай адказнасці 49 парушальнікаў.

Для выяўлення парушальнікаў лягасы з канца 2014 прымяняюць фота і відэакамеры. Усяго выкарыстоўваюць 526 камер фотафіксацыі. З пачатку 2018 года прыцягнулі да адказнасці 232 парушальнікаў.

**Паводле БелТА.**

# Дзяржкантроль знайшоў аб'екты, не ўключаныя ў пералік на павышаную стаўку падатку

ВІЛЕЙКА

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю праверыў, як сфарміраваны пералік капітальных пабудоў, іх частак і зямельных участкаў, якія не выкарыстоўваюць ці ўжываюць неэфектыўна.**

Для гэтых будынкаў павялічваюць стаўку падатку на нерухомасць, зямельнага падатку ці памер арэнднай платы на ўчасткі.

Летась у пералік на павышаную стаўку ўключылі 21 аб'ект, якія не выкарыстоўваліся. Аднак даведаліся, што ў 2017-м і сёлета некаторыя суб'екты прадстаўлялі няпоўныя і недакладныя звесткі пра такія будынкі нерухомасці і зямельныя ўчасткі. Калі-нікалі інфармацыю пра іх замоўчвалі.

Пры праверцы знайшлі яшчэ 84 падобныя будынкі, якія патрабавалі ўключэння ў пералік. Звестак пра іх не было ні ў Вілейскім райвыканкаме, ні ў камітэце дзяржаўнай маёмасці Мінскага аблвыканкама.

Пры праверцы для ўключэння ў пералік на павышаную стаўку падатку падалі звесткі пра 31 аб'ект Вілейскага райаграсэрвісу, 16 аб'ектаў ПМК-185, 7 аб'ектаў ПМК-88, 30 аб'ектаў Вілейскага райспажывутаварыства.

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржаўнага кантролю.**

# Санстанцыя знайшла парушэнні на васьмі прадпрыемствах Маладзечаншчыны

МАЛАДЗЕЧНА

Спецыялісты Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праверылі прамысловыя прадпрыемствы ў спякотнае надвор'е.

Правяралі мікраклімат на працоўных месцах – вымяралі тэмпературу, адносную вільготнасць, хуткасць руху паветра.

Ад першага чэрвеня даследавалі 20 прадпрыемстваў розных накірункаў у Маладзечне і Маладзечанскім раёне. На васьмі з іх на некаторых працоўных месцах выявілі перавышэнне тэмпературы на паўтара градуса.

Туды накіравалі рэкамендацыі па ўхіленні парушэнняў.

Патрабаванні абавязковыя для гаспадароў, што займаюцца эканамічнай дзейнасцю.

**Кацярына ЕРАВІКОВА,**
**доктар-гігіеніст аддзялення гігіены працы Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 19.07 | 26.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1.9886 | **1.9901** |
| Еўра | 2.3120 | **2.3268** |
| Злоты, 10 | 5.3641 | **5.4173** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1609 | **3.1580** |
| Грыўня, 100 | 7.5569 | **7.4732** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 18.07 | 25.07 |
| Еўра | 2.2950/2.3200 | **2.3100/2.3300** |
| Долар ЗША | 1.9740/1.9920 | **1.9780/1.9930** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 18.07 | 25.07 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,48 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,60 | **3,60** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,95 | **7,13** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,30** |
| Селядзец, 1 кг | 3,15 | **3,25** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **0,90** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,70 | **1,60** |
| Алей «Залатая семачка», 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **1,87** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,65** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,70 | **1,75** |
| Бульба, 1 кг | 0,90 | **0,95** |
| Буракі, 1 кг | 1,50 | **1,20** |
| Кабачок, 1 кг | – | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,50** |
| Морква, 1 кг | 1,70 | **1,60** |
| Памідоры, 1 кг | 2,30 | **2,00** |
| Перац, 1 кг | 2,00 | **1,70** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,50 | **2,99** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Бананы, 1 кг | 1,70 | **2,00** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Дыня, 1 кг | 3,00 | **2,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,95 | **0,85** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімоны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Персікі, 1 кг | 3,80 | **3,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,70 | **2,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## Цела рыбака знайшлі ў вадаёме ў вёсцы Стаўкі

ВІЛЕЙКА

Раніцай 23 ліпеня ў Вілейскую выратавальную станцыю патэлефанавалі грамадзяне і паведамілі, што ў вадаёме ля вёскі Стаўкі (Малюны) плавае тапелец.

Мужчыну знайшлі ў вадаёме, які мясцовыя называюць Земснарад.

Следчыя, што прыехалі на месца, апыталі выратавальнікаў, устанавілі асобу тапельца.

Аказалася, гэта жыхар Вілейкі, які 21 ліпеня пайшоў на рыбалку. Калі да вечара мужчына не вярнуўся дамоў, жонка паведаміла ў міліцыю. Пра гэта карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» распавялі ў Вілейскай выратавальнай станцыі і РАСК.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Астравецкім раёне патануў мужчына

АСТРАВЕЦ

Здарэнне адбылося вечарам 18 ліпеня на Іванаўскім вадасховішчы.

Вадалазы Астравецкай выратавальнай станцыі паднялі яго цела з глыбіні пяць метраў прыкладна ў 20:40.

Як паведаміў начальнік вадалазна-выратавальнай службы Гродзенскага ТРВОД **Юры Касцевіч**, 27-гадовы мясцовы жыхар разам са знаёмымі вырашыў пакупацца ў вадасховішчы.

Калі ўсе выйшлі на бераг, заўважылі яго адсутнасць і выклікалі ратавальнікаў. Вадалазы паднялі цела мужчыны з глыбіні. Па факце таплення праводзіцца праверка.

**Паводле grodnonews.by.**

## Узбудзілі крымінальную справу за скрадзены ровар

МЯДЗЕЛ

У 43-гадовага жыхара Нарачы з двара дома 57-гадовы жыхар вёскі Гуменнік Пастаўскага раёна скраў ровар.

Здарэнне адбылося 13 ліпеня каля 15:00. Сума шкоды – 100 рублёў.

Крымінальную справу ўзбудзілі 17 ліпеня па артыкуле «Крадзеж».

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

## Жанчыну, якая знікла ў Вілейцы, знайшлі мёртвай

ВІЛЕЙКА

Заяву пра знікненне 83-гадовай пенсіянеркі яе дачка падала 17 ліпеня.

Цела зніклай жанчыны без бачных цялесных пашкоджанняў праваахоўнікі знайшлі на тэрыторыі дэндрапарку ў Вілейцы падчас пошукаў прыкладна ў трохсот метрах ад моста, распавялі ў Вілейскім РАУС.

**Аддзел інфармацыі.**

## У парку раварыст-падлетак наехаў на жанчыну. Міліцыя шукае відавочцаў

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ў парку Перамогі 9 ліпеня каля васьмі гадзін вечара.

Невядомы хлопец, на выгляд 16 год, ехаў на ровары і наехаў на 63-гадовую жанчыну, якая ішла з боку атракцыёнаў да цэнтральнага ўвахода.

Жанчына ўпала і атрымала пашкоджанні.

Супрацоўнікі ДАІ просяць сведак і відавочцаў здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС на адрас: вул.Т.Дудко, 1-18 ці па тэлефонах: **8 (0176) 74-53-40, 74-53-43** або **102.**

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС, капітан міліцыі.**

## Пад Смаргонню легкавая з-за сустрэчнага аўтамабіля зляцела ў кювет

СМАРГОНЬ

Здарэнне адбылося недалёка ад Крэва.

Як распавёў кіроўца «Аўдзі», сустрэчны аўтамабіль пры здзяйсненні абгону стварыў небяспеку для руху. Для таго, каб пазбегнуць лабавога сутыкнення, ён узяў лявей і паляцеў у кювет.

У ДТЗ пацярпела 49-гадовая пасажырка, якая знаходзілася на заднім сядзенні і не была прышпіленая рамянём бяспекі. З пераломамі яе шпіталізавалі ў бальніцу.

**Паводле grodnonews.by.**

## Адкруцілі кола ад ровара і скралі скрыню цвікоў

ВІЛЕЙКА

У суботу ў Вілейскі РАУС звярнулася жанчына і паведаміла, што нехта залазіў у яе дом на лецішчы ў Ракшыцах Альковіцкага сельсавета.

Міліцыя выехала на месца і высветліла, што, калі гаспадыні не было дома, нехта сапраўды пабываў у доме.

Але з маёмасці амаль нічога не скралі.

Адкруцілі задняе кола ад ровара «Аіст», што стаяў у хаце. А таксама прыхапілі скрыню цвікоў. Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» распавяла намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Выратавальнікі дастаюць пацярпелага кіроўцу.

# Ля Дзякшнянаў сутыкнуліся тры аўтамабілі

## Кіроўцу даставалі выратавальнікі

МАЛАДЗЕЧНА

**22 ліпеня каля трох гадзін дня выратавальнікам паступіла паведамленне аб дарожна-транспартным здарэнні каля вёскі Дзякшняны.**

Патрабавалася дапамога, каб дастаць пацярпелых з аўтамабіля. Спецыялістам, якія прыехалі на месца аварыі, стала вядома, што сутыкнуліся тры машыны: легкавыя «Пежо-Эксперт» і «Фольксваген-Пасат Б5», а таксама грузавы «Рэно-Маскот». Там ён сутыкнуўся з іншымі аўтамабілямі.

Здарэнне адбылося на 47-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач. На сустрэчную паласу выехаў 45-гадовы кіроўца «Рэно-Маскот».

Работнікі МНС з легкавога аўтамабіля «Пежо-Эксперт» дэблакавалі кіроўцу. Мужчыну з траўмамі рознай ступені цяжкасці шпіталізавалі ў рэанімацыйнае аддзяленне Маладзечанскай ЦРБ.

Да прыбыцця ратавальнікаў з гэтага ж аўтамабіля работнікі «хуткай дапамогі» вынялі жанчыну 1967 года нараджэння. Пацярпелую шпіталізавалі ў таксама ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы.

**Аддзел інфармацыі.**

## ДАІ Маладзечна праводзіць адзіны дзень інфармавання

МАЛАДЗЕЧНА

Аналіз аварыйнасці на Міншчыне сведчыць, што кожнае трэцяе ДТЗ адбылося з-за няправільнага выбару або перавышэння хуткасці руху.

Ад пачатку года ў Маладзечанскім раёне адбылося 30 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх 4 чалавекі загінулі, 28 параненыя. Дзве аварыі адбыліся па віне нецверазых кіроўцаў.

З-за няправільнага выбару хуткасці руху здзейснена восем ДТЗ. За перавышэнне ўстаноўленых хуткасных рэжымаў да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі больш за 200 кіроўцаў.

З мэтай прафілактыкі ДТЗ па прычыне парушэння хуткасці ДАІ Маладзечна 27 ліпеня праводзіць адзіны дзень бяспекі дарожнага руху.

Міліцыянеры распавядуць аб прафілактыцы дарожна-транспартнага траўматызму ў працоўных калектывах, узмоцняць нагляд за дарожным рухам з ужываннем галоснага, сакрэтнага і змешанага кантролю за кіроўцамі.

ДАІ нагадвае, што, згодна з Адміністрацыйным кодэксам Рэспублікі Беларусь, за перавышэнне хуткасці ад 10 да 20 кіламетраў у гадзіну штраф складзе 24,5 рубля; ад 20 да 30 – 24,5 – 73,5; 30 і больш – 73,5 – 245 рублёў.

За паўторнае на працягу года перавышэнне хуткасці прымяняюць максімальнае адміністрацыйнае ўздзеянне – пазбаўленне пасведчання кіроўцы тэрмінам да 1 года.

## На Міншчыне стала больш здарэнняў з удзелам пешаходаў і раварыстаў

На дарогах Мінскай вобласці сёлета пабольшала здарэнняў з удзелам пешаходаў і раварыстаў. На сёння іх 28. У выніку такіх здарэнняў людзі атрымліваюць пашкоджанні. Пры наездзе пад коламі аўтамабіля загінулі пяць раварыстаў.

На Маладзечаншчыне з пачатку года адбылося 11 ДТЗ з удзелам раварыстаў і пешаходаў. Адзін чалавек загінуў.

Ад 27 да 30 ліпеня ДАІ Маладзечна правядзе мерапрыемствы па папярэджанні аварый з удзелам гэтых катэгорый. Адпрацуюць нерэгуляваныя пешаходныя пераходы, вуліцы горада і вёсак, участкі дарог, дзе найчасцей адбываюцца падобныя здарэнні. Таксама правядуць гутаркі ў працоўных калектывах, нагадаюць пра выкарыстанне флікераў.

Паводле Адміністрацыйнага кодэкса, калі пешаход парушае правілы дарожнага руху, яго караюць штрафам ад 24,5 да 73,5 рубля. Калі ж з-за парушэння правілаў здарэцца аварыя, памер штрафу ўзрастае да 196 рублёў.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС, капітан міліцыі.**

# У якіх выпадках можна звяртацца да натарыуса

## Адкрытую гутарку з натарыусам правялі ў бібліятэцы сямейнага чытання «Верасок»




Каб вырашыць уласныя праблемы, людзі звяртаюцца да натарыуса.

МАЛАДЗЕЧНА

**Сустрэчу зладзілі 19 ліпеня. Яе прысвяцілі падзелу маёмасці, якая ў тым ліку з'яўляецца агульнай уласнасцю мужа і жонкі. На папярэдняй – 21 чэрвеня – разглядалі тэму завяшчанняў.**

– Дзякуючы пагадненню паміж Нацыянальным цэнтрам прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Беларускай натарыяльнай палатай мы ладзім у бібліятэцы бясплатныя кансультацыі, семінары, лекцыі і іншыя мерапрыемствы па прававой асвеце людзей. Праводзім іх на базе публічнага цэнтра прававой інфармацыі Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча. Усяго ў нас дзевяць такіх цэнтраў – у сельскай мясцовасці і ў горадзе, – расказала **Галіна Адамовіч**, выканаўца абавязкаў дырэктара Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча.

Каб вырашыць уласныя праблемы, людзі звяртаюцца да спецыяліста. У кожнага свая сітуацыя, якая патрабуе індывідуальнага разгляду.

Разабрацца ў парадку афармлення дакументаў і пагутарыць з натарыусам вырашылі і мы.

### Калі заключаць дагавор падзелу маёмасці?

Дагавор падзелу маёмасці можна заключыць падчас шлюбу, ці на працягу трох гадоў з моманту яго скасавання.

### Што можна падзяліць, калі заключаеш дагавор падзелу маёмасці?

– Дзеліць не толькі нерухомасць, але і мэблю, посуд, кветкі, нават папугаяў. Муж і жонка павінны самі вырашыць, каму што дастанецца. Для таго, каб натарыус заключыў дагавор падзелу, трэба каб не было спрэчкі. Калі дамовіцца не могуць – пытанне вырашаюць праз суд, – тлумачыць натарыус Мінскай абласной натарыяльнай акругі **Тацццяна Аўчук**, якая выконвае натарыяльную дзейнасць у натарыяльнай канторы Маладзечанскага раёна №1.

### Чым адрозніваецца шлюбны дагавор і дагавор падзелу маёмасці?

– Шлюбны дагавор заключаюць або паміж асобамі, якія ўжо з'яўляюцца мужам і жонкай, або асобамі, што маюць намер уступіць у шлюб. Калі вы не ў шлюбе, можаце з патэнцыйным мужам або жонкай прыйсці ў натарыяльную кантору і заключыць дагавор на будучыню. Ён уступіць у сілу толькі пасля рэгістрацыі шлюбу. У дагаворы можна прадугледзець, што ён будзе дзейнічаць не толькі пасля разводу, а і, напрыклад, адразу пасля заключэння ці рэгістрацыі, – распавядае Таццяна.

Калі ў сям'і ёсць дзеці, у дагаворы дамаўляюцца пра ўдзел у іх жыцці, пра аплату аліментаў, пра дапамогу ў выхаванні.

### Можна падзяліць і спадчынную маёмасць

Падзел бывае не толькі паміж мужам і жонкай.

Часта ў натарыяльную кантору звяртаюцца з пытаннямі аб парадку афармлення спадчынных правоў. Гэта можна зрабіць двума спосабамі – па законе і па завяшчанні.

Грамадзяне павінны памятаць, што не пазней, чым да паўгода з дня смерці, яны павінны з'явіцца да натарыуса. Калі гэты тэрмін прапушчаны, трэба звяртацца ў суд. Неабходна або прад'явіць дакументы, якія пацвярджаюць, што чалавек фактычна прыняў спадчыну – такім дакументам з'яўляецца, да прыкладу, даведка з сельвыканкама. Або суд можа падоўжыць тэрмін для прыняцця спадчыны. Для гэтага павінны быць законныя падставы.

Перад зваротам да натарыуса людзі могуць дамовіцца пра тое, хто і што атрымае.

– Да прыкладу, ёсць тры нашчадкі. Памерлы пакінуў ім кватэру, машыну і гараж. Пры жыцці завяшчанне не зрабіў. Па законе кожны атрымае адну трэцюю долю ад усёй маёмасці. Не ўсіх гэта задавальняе, таму што адзін хоча канкрэтна кватэру, другі гараж, трэці машыну, – кажа Таццяна. – Выйсцем з сітуацыі з'яўляецца заключэнне дагавора падзелу спадчыннай маёмасці.

### Падзел спадчыннай маёмасці па даверанасці

Напрыклад, спадчыну трэба аформіць у адным горадзе, а самі жывяце ў другім. Або па нейкай прычыне не можаце выконваць свае паўнамоцтвы. У такім выпадку можна даць даверанасць, напрыклад, сваяку, таварышу ці адвакату, які прадставіць вашы інтарэсы. Каб яе засведчыць, трэба звярнуцца да натарыуса ці, напрыклад, у сельвыканкам.

Падобныя сустрэчы будуць ладзіць кожны трэці чацвер месяца. З восені плануюць праводзіць іх па два разы на месяц. Сустрэчы могуць наведваць усе ахвотныя.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

## Павялічылі тэрмін бязвізавага знаходжання замежных грамадзян у Беларусі

Тэрмін бязвізавага знаходжання замежных грамадзян у Беларусі павялічаны да 30 сутак. Пры ўмове ўезду ў краіну і наступнага выезду людзей праз Дзяржаўную мяжу ў Нацыянальным аэрапорце Мінск.

Адпаведны ўказ Прэзідэнт Беларусі **Аляксандр Лукашэнка** падпісаў 24 ліпеня.

У дакуменце змясцілі пералік дзяржаў, грамадзяне якіх маюць права скарыстацца рэжымам бязвізавага ўезду і выезду. З яго выключаны краіны, з якімі Беларусь заключыла двухбаковыя пагадненні аб узаемнай адмене віз.

Для бязвізавага ўезду замежныя грамадзяне павінны мець пры сабе сапраўдны пашпарт або дакумент, які яго замяняе, прызначаны для выезду за мяжу, грошы. На кожны дзень знаходжання суму ў валюце або беларускіх рублях, эквівалентную не менш чым двум базавым велічыням. Або 50 базавых велічынь, калі знаходжанне складзе поўных 30 дзён. Таксама медыцынскі страхавы поліс, які дзейнічае ў Беларусі, на суму не менш за дзесяць тысяч еўра.

Грамадзяне В'етнама, Гаіці, Гамбіі, Індыі, Лівана, Намібіі і Самаа павінны мець у пашпарце сапраўдную шматразовую візу дзяржаў ЕС або Шэнгенскай зоны з адзнакай аб уездзе на іх тэрыторыю. І авіябілеты з пацвярджэннем у іх вылету з Нацыянальнага аэрапорта Мінск на працягу 30 дзён з даты ўезду.

Грамадзяне Кітая такім парадкам бязвізавага ўезду ў Беларусь будуць карыстацца да 10 жніўня 2018 года – да ўступлення ў сілу двухбаковага пагаднення аб узаемным бязвізавым рэжыме для ўладальнікаў звычайных пашпартоў.

Парадак бязвізавага перамяшчэння праз аэрапорт не распаўсюджваецца на тых, хто прыбывае ў Беларусь авіярэйсамі з Расіі. І тых, хто плануе вылецець у расійскія аэрапорты.

Бязвізавы рэжым не распаўсюджваецца на замежных грамадзян, якія едуць у Беларусь для працаўладкавання, вядзення камерцыйнай дзейнасці і навучання, працягласць якога перавышае 30 сутак.

Тэрмін бязвізавага знаходжання вылічваецца ў цэлых каляндарных сутках. Першым суткам адпавядае дата прыбыцця, апошнім – дата выезду. Тэрмін бязвізавага знаходжання не можа быць прадоўжаны.

Замежныя грамадзяне, якія плануюць знаходзіцца ў Беларусі больш за пяць рабочых дзён, павінны зарэгістравацца ў органах унутраных спраў па месцы свайго знаходжання. Пры пражыванні ў гасцініцах, хостэлах, санаторыях рэгістрацыя ажыццяўляецца адміністрацыямі гэтых устаноў па змаўчанні падчас засялення.

Дакумент уступае ў сілу пасля афіцыйнага апублікавання.

**Паводле БелТА.**

## Бюджэт пражытачнага мінімуму павышаецца на сем рублёў

У Беларусі ўстаноўлены бюджэт пражытачнага мінімуму ад 1 жніўня да 31 кастрычніка 2018 года. Цяпер ён будзе складаць 213,67 рубля.

Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Міністэрства працы і сацыяльнай абароны ад 19 ліпеня 2018 года №61.

З 1 мая БПМ складаў 206,58 рубля

Новы бюджэт пражытачнага мінімуму для працаздольнага насельніцтва складае 236,98 рубля, пенсіянераў – 162,58 рубля, студэнтаў – 206,89, дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў – 135,93, дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў – 188,95, дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў – 231,32 рубля.

**Паводле Нацыянальнага прававога інтэрнэт-партала.**

## У Астраўцы адкрываюць новае пажарнае дэпо

Цяпер на аб'екце завяршаюць аддзелачныя работы і добраўпарадкоўваюць прылеглую тэрыторыю.

Начальнік Гродзенскага ўпраўлення МНС **Сяргей Шпарло** адзначыў, што ў рамках інвестыцыйнай праграмы адабрэнне атрымалі два трансгранічныя праекты абласнога ўпраўлення МНС.

Другі прадугледжвае набыццё аўтамабільнага каленчатага пажарнага пад'ёмніка, загароды для збору прадуктаў нафтахіміі пры ліквідацыі наступстваў аварый на вадзе, аварыйна-выратавальнай прылады.

**Аддзел інфармацыі.**

## ПРАЦА

**ПАТРАБУЕЦЦА**

• АРГАНІЗАЦЫІ Ў ІНСТРУМЕНТАЛЬНЫ ЦЭХ ПАТРАБУЮЦЦА: ФРЭЗЕРОЎШЧЫК, ШЛІФОЎШЧЫК І СЛЕСАР-ІНСТРУМЕНТАЛЬШЧЫК (МАГЧЫМАЕ НАВУЧАННЕ). Т. (8-029) 6405020.

• Рабочыя будаўнічых спецыяльнасцяў, прараб. ТАА «Стройбай» УНП 692023203. Т. (8-033) 3516839, (8-044) 5186382.*

• ТАА «ДАМІР-Тэхна» патрабуецца на пастаянную работу кваліфікаваны электразваршчык. УНП 192562294. Т. (8-044) 5463031.*

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Аддзелачніка. Вялікі досвед працы. Т. (8-029) 2775694.*

• Печніка. Т. Лайф (8-025) 6035930.*

# Ракі і стронга зніклі назаўжды?

## Што стала з ракой Вяпраткай на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**Мялеюць рэчкі, ручаі і ўвогуле знікаюць. Не хачу казаць за ўсю краіну, а завастру ўвагу толькі на адной невялічкай рэчцы з крынічнай вадой Вяпратцы, што на Вілейшчыне.**

Рака гэта працякае якраз праз маю родную вёску Чарвякі (цяпер Сакалоўка). У вёсцы і на рэчцы прайшло маё дзяцінства, юнацтва.

### Як рака яднала два менталітэты

У той час у Чарвяках школа была толькі пачатковая, чатыры класы. Далей дзеці ішлі вучыцца ў суседнюю Крамянецкую васьмігодку. Каб да яе дабрацца, нам трэба было кожны дзень перадольваць тры вярсты бездарожжа. Шлях пралягаў праз Вяпратку, якая працякае ў пяцістах метрах на ўсход ад Чарвякоў.

**Далей, прайшоўшы яшчэ з паўвярсты забалочаным лесам, мы апыналіся на тэрыторыі колішняга далёкага замежжа. Бо да 1939 года паміж Вяпраткай і лесам праходзіла савецка-польская мяжа. Чарвякі былі пад Польшчай, а суседні Крамянец пад савецкай Расіяй.**

Пасля падзей 1939 года Вяпратка служыла яднаннем двух народаў, двух менталітэтаў. Бо ідэалагічнае грамадскае выхаванне савецкага і польскага бакоў моцна адрознівалася і не мела амаль нічога агульнага. Акрамя толькі таго, што скарыстаць воднае багацце і пакупацца мелі аднолькавае жаданне як чарвякоўцы, так і краменчукі.

За час раз'яднання вырасла цэлае пакаленне, а рэчка знаёміла і зближала людзей. У яе найчысцейшай вадзе, яшчэ пры маёй памяці, акрамя вялізных ракаў і сярод разнастайнай рыбы вадзілася нават стронга!



Так выглядае сёння Вяпратка недалёка ад вёскі Калачы.

### Пра штучныя ставы і вадзяныя млыны

Нашы продкі з любоўю і пяшчотай ставіліся да прыроднага навакольнага асяроддзя. Яны намагаліся захаваць усё ў першапачатковым стане, каб было што перадаць у спадчыну нам, сваім нашчадкам. Рэчка Вяпратка, яе багацці і вада выкарыстоўваліся, не прыносячы ёй шкоды.

Па Вяпратцы калісьці сплаўлялі лес. За кошт яе рэчышча ўтвараліся штучныя вадасховішчы для вадзяных млыноў. Адзін з такіх быў і ў маёй вёсцы.

Рыбныя рачныя запасы для насельніцтва складалі немалую частку харчовага рацыёну. Каб захаваць рэчку чыстай, вадасховішчы не выкарыстоўвалі для прамысловага развядзення рыбы. Для гэтага будавалі спецыяльныя штучныя вадаёмы, ставы, на якія вада падавалася па спецыяльных водаадводах з вяпрацкіх вадасховішчаў. Такія ставы былі і ў Чарвяках. Яны займалі плошчу прыкладна ў 150 гектараў.

**У Чарвяках Вяпрацкае вадасховішча апошняе. Бо ўжо праз паўтары вярсты ніжэй па плыні, далучыўшыся да ракі Іліі, Вяпратка завяршае свой шлях у 19 вёрст як асобная рачная адзінка.**

Некалі на правым беразе Вяпраткі, на плошчы ў пяць гектараў, месціўся панскі двор з рознымі пабудовамі і цудоўным двухпавярховым мураваным сядзібным домам – маёнтак Вяпраты.

Цікава тое, што на фальварку ніколі не было ніводнай студні. Усе яго жыхары спрадвеку забяспечвалі сябе пітной і для гаспадарчых патрэб вадой толькі з рэчкі. Бо вада ў ёй была выключна чыстая.

Падчас Другой сусветнай вайны ў панскім маёнтку быў шпіталь для нямецкіх салдат. Магчыма, яго арганізавалі тут таму, што крынічная вада ў Вяпратцы была не толькі чыстая, але і гаючая.



Засмечаныя берагі рэчкі з крынічнай вадой.

### Бераг Вяпраткі быў белы ад рыбы

Але непрадуманая аграрная палітыка Савецкага Саюза, якая ўключала ў сябе павальную меліярацыю беларускіх балот у 1960-1970-х, прынесла велічэзную шкоду прыродным рэсурсам па ўсёй нашай краіне.

Меліярацыя не магла не зачапіць і нашы мясціны, нашу Вяпратку, з-за чаго яна страціла шмат рыбных запасаў. Ад той пары ў роднай рацэ назаўсёды зніклі ракі і стронга.

Я добра памятаю той меліярацыйны бум. Асабліва запомнілася выпростванне рэк. Калі рэчка праходзіла па забалочаных мясцінах, то яе рэчышча штучна накіроўвалі ў загадзя пракапаныя меліярацыйныя прамыя каналы. Ваду туды накіравaць атрымоўвалася, а вось рыба і ўся вадзяная жыўнасць не сыходзіла са сваіх спрадвечна нажытых родных мясцін. Застаўшыся ў старым рэчышчы, яна ўся згінула ад рук чалавека.

У дзень руйнавання старога рэчышча на яе беразе сабраліся амаль усе жыхары маіх Чарвякоў. Вяскоўцы сталі і ціхенька назіралі, як на той час магутныя гусенічныя трактары піхалі валы зямлі, засыпаючы рэчышча. Ад гэтага на супрацьлеглы бераг выплёхвалася вялікая вадзяная хваля, якая прыхоплівала за сабой і рачных жыхароў.

Бераг ракі быў белы ад рыбы. Трохкілаграмовыя карпы, метровыя шчупакі, акуні, плоткі, ментузы біліся ў перадсмяротных сударгах. А людзі са слязьмі на вачах працягвалі нерухома стаяць на беразе, не праяўляючы ніякага інтарэсу да такой вялізнай колькасці дармавой рыбы.

Праз нейкі час мясцовы жыхар **Іван Пятровіч** прапанаваў, каб кожны, колькі здолее, узяў сабе рыбы, бо яна ўсё адно прападзе. Гэтак і зрабілі.

### А тое, што не знішчылі час і вайна, зруйнавалі пяцігодкі

Меліярацыя балот і рэканструкцыя штучных вадаёмаў рыбгаспадарак закранула і вытокі Вяпраткі. Тое, што не знішчыў час і вайна, зруйнавалі савецкія пяцігодкі. Плаціну верхавога вадасховішча на вытоках Вяпраткі разбурылі. А рыбныя распрацавалі пад калгасныя палеткі.

Ужо за вярсту ад вытокаў вада Вяпраткі губляе свае крынічныя якасці. Бо замест спрадвечных ставоў на самой рацэ пабудавалі штучнае вадасховішча пад зарыбленне карпам для мясцовага рыбгаса.

Далей Вяпратка праз вёску Казлеўшчына трапляе ў суседнія Калачы. Тут на яе правым беразе, літаральна ў 120 метрах ад рэчышча, пабудавалі буйны жывёлагадоўчы комплекс, сцёкі з якога трапляюць у Вяпратку. Ды ў дадатак разнастайнае смецце, якім завалены бераг гэтай рэчкі.

**Дно Вяпраткі ўжо мае багатую падводную раслінасць, а берагі ператвараюцца ў хмызнякова-крапіўныя.**

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**
**Фота аўтара.**

# Як аўталаўка ажыўляе вёску



Жыхарка вёскі Рэдзькі Маладзечанскага раёна набывае ў аўталаўцы хлеб.



У чаканні аўталаўкі.



Дачакаліся!

МАЛАДЗЕЧНА

**Каб гараджаніну выбрацца ў свет, пабачыць знаёмых і пачуць новыя навіны, якіх не дазнаешся з інтэрнэта альбо тэлевізара, варта завітаць на кірмаш. А вяскоўцу даводзіцца колькі раз на тыдзень чакаць аўталаўку.**



«Загрузіце, калі ласка!»



Закупіўся.

У паўапусцелых вёсках, дзе ўжо болей не працуе ані крама, ані клуб – гэта сапраўдная падзея. Яна быццам ажыўляе, і людзі з усіх куткоў збіраюцца на вызначаным месцы і чакаюць. Гэта не столькі пакупкі, колькі своеасаблівы рытуал. Тут можна нетаропка пагаварыць, запытаць у аднавяскоўцаў пра справы агароднія, надвор'е, цэны ды пытанні геапалітыкі абмеркаваць. Таму, відаць, і збіраюцца загадзя, няспешна.

Гаспадыня, што корпалася ў агародзе, пачуўшы запаветны сігнал і гук , вешае на плот свае драпачы і спяшаецца памыць рукі і чысцей апрануцца. Тут жа да людзей ідзеш, не інакш. Увесь дзень пад прыезд аўталаўкі падладжваеш: справы, якія робіш да прыезду і пасля.

І кіроўцу, і прадаўцоў тут усе ведаюць па імю, гэта добрыя знаёмыя, ад якіх можна пачуць навіны з суседніх вёсак, гарадскога жыцця, падзяліцца перажываннямі і думкамі.

Дзяды гэтых бабуляў-дзядуляў у свой час казалі, што ў краме набываюць толькі жалеза і соль, усё астатняе здольныя выгадаваць і здабыць самастойна. Вёска змянілася. Старыя бяруць хлеб і да гарбаты якіх цукерак, алей, гарадской кілбасы, малако, кефір, смятану – кароў ужо ніхто не трымае. Да свята можна і віно ўзяць. А для тых, у каго свята кожны дзень, – напої памацней.

Пастаяўшы і пагаманіўшы, людзі разыходзяцца па сваіх дамах. Раскладуць пакункі – і зноў за працу.

**Сяргей ЛЕСКЕЦЬ.**
**Фота аўтара.**

## Правядуць рэгіянальнае свята возера ў Мядзеле

МЯДЗЕЛ

Свята возера «Краса майго краю» пройдзе 28 ліпеня ў Мядзеле.

У праграме – тэатралізаванае адкрыццё, выступленні аматарскіх калектываў і артыстаў раёна, канцэрт групы «Цягні-штурхай», квэст «Таямніцы нарачанскіх азёр». Свае работы прадстаўляць народныя майстры.

Дзяцей чакаюць водная феерыя, гульнявыя пляцоўкі і атракцыёны, фестываль фарбаў Холі.

Свята пачнецца ў 15:30 на гарадскім пляжы на беразе возера Мястра, паведамляюць у Мядзельскім райвыканкаме. На масавых мерапрыемствах не будуць прадаваць алкагольныя напоі.

**Аддзел інфармацыі.**

## На раскопках шкляной гуты ў Ілы знайшлі люльку, нацельны крыжык, манеты

ВІЛЕЙКА

10 ліпеня археолагі і валанцёры пачалі раскопкі на месцы шкляной гуты ля Ілы, што працавала тут у 18 стагоддзі. Ужо ёсць першыя знаходкі.

Як расказала «Рэгіянальнай газеце» кіраўнік экспедыцыі, гісторык і археолаг, выкладчыца БДУ **Паліна Курловіч-Бляяўская**, з зямлі досталі шмат цікавага шкла, нацельны крыжык, ключ, люльку для курэння, манету Рэчы Паспалітай.

А яшчэ сёлета цалкам разабралі печ, у якой старажытныя выторцы варылі шкло.

Больш падрабязна пра раскопкі ў Ілы чытайце ў бліжэйшых нумарах «Рэгіянальнай газеты».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Мядзеле рыхтуюць пляцоўку да абласных дажынак

МЯДЗЕЛ

У горадзе, дзе сёлета павінны адбыцца абласныя дажынкі, робяць бягучы і капітальны рамонт дамоў, працуюць над падрыхтоўкай галоўнай пляцоўкі свята – амфітэатра. Асфальтуюць вуліцы, часткова – двары. Хутка павінны здаць будынак новай гасцініцы, паведамляюць у Мядзельскім райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Сіньках правялі свята гаспадынь

СМАРГОНЬ

15 ліпеня ў аграгарадку Сінькі другі год запар правялі свята беларускіх гаспадынь.

Супрацоўнікі Сінькаўскага Дома культуры прысвяцілі сёлетняе свята хлебу. Кожны падворак прэзентаваў вырабы з мукі. Прадстаўлялі і дамашні хлеб, спечаны па старажытным рэцэпце, і багата аздобленыя торты.

Выступілі самадзейныя артысты з вёскі Сасноўка і салісты эстраднай студыі «Міраж» са Смаргоні.

**Аддзел інфармацыі.**

## Музычны калектыў Валожынскага цэнтра сацабароны заняў другое месца ў вобласці

ВАЛОЖЫН

На нядаўнім музычным фестывалі мастацкай самадзейнасці калектываў сацыяльных устаноў Міншчыны ўдзельнічала 40 каманд, сярод якіх былі і валожынцы на чале з дырэктарам сацыяльнага цэнтра тэрытарыяльнай абароны насельніцтва **Галінай Рай**.

За канцэртную праграму, прадстаўленую на фестывалі, валожынцы атрымалі другое месца, паведамляюць на сайце Валожынскага райвыканкама.

**Паводле сайта Валожынскага райвыканкама.**

## Педагогі дзіцячых цэнтраў «Зубраня» і «Акіян» абмяняліся досведам

МЯДЗЕЛ

17 ліпеня ў дзіцячым цэнтры «Зубраня» пабывалі кіраўнікі Усерасійскага дзіцячага цэнтра «Акіян» **Аляксандр Крамар** і **Алена Фёдарава**.

Падчас адкрытага дыялога з педагогамі «Зубраняці» калегі з Расіі распавялі пра тое, як распрацоўваюць педагагічныя праграмы, як рыхтуюць супрацоўнікаў, адказалі на пытанні беларускіх калег аб працы «Акіяна» і яго падраздзяленняў.

**Паводле сайта дзіцячага цэнтра «Зубраня».**

# На Маладзечаншчыне здымалі фільм «Чарнобыль»



Падчас перапынку ў здымках.



Эвакуацыя.



На пляцоўцы атмасферна.

МАЛАДЗЕЧНА

**У вёсцы Турэц-Баяры ад 17 да 22 ліпеня праходзілі здымкі шматсерыйнага мастацкага фільма. Рэжысёр Аляксей Мурадаў рэканструяваў гістарычныя падзеі, якія адбыліся ў Прыпяці ў 1986 годзе.**

Фільм пачалі здымаць у Маскве. Пасля паехалі па Беларусі. Акрамя Турэц-Баяраў, былі ў Мазыры, Мінску, Слуцку.

На Маладзечаншчыне здымалі і сцэну эвакуацыі мясцовага насельніцтва, і Прыпяць праз паўгода пасля аварыі.

У галоўных ролях фільма выступілі знакамітыя акцёры. У вёсцы здымалі **Дзмітрыя Ульянава**, **Ігара Пятрэнку**, **Аляксандра Ільіна-малодшага**.

Рэжысёр «Чарнобыля» Аляксей Мурадаў распавёў, што ідэя фільма з'явілася ў галоўнага прадзюсара праекта **Андрэя Феафанава**. Той прапанаваў серыял каналам. НТБ пагадзілася.

> **– Мы стараемся перадаць атмасферу тых часоў. У Беларусі даўно працавалі кастынг-дырэктары, шукалі твары, тыпажы, узрост, пол. Вялася вялікая работа, – распавядае рэжысёр.**

Аляксей Мурадаў – рэжысёр, прадзюсар, сцэнарыст, аўтар мастацкіх і дакументальных фільмаў. Аўтар і рэжысёр шэрагу рэкламных і музычных кліпаў. Сярод яго фільмаў – «Чарвяк», «Жукаў», «Начныя сёстры», «Чалавек вайны», «Двое пад дажджом», «Уласік. Цень Сталіна».

У кастынгах на масоўку паўдзельнічалі некалькі соцень чалавек. Ім прапанавалі ганарар і апладзіравалі ежу.

Акцёраў на гэтыя ролі адбіралі праз суполкі ў сацыяльных сетках. Штодзённа абвяшчалі, колькі трэба чалавек. Каб трапіць на пляцоўку, трэба было назваць узрост, нумар тэлефона, рост, памер абутку і адзення, а яшчэ даслаць фота. Не дапускалі дзяўчат з нарошчанымі пазногцямі і вейкамі.

– На ролю міліцыянераў шукалі мужчын без шчаціння. Прадстаўнік закона павінны быць гладка паголены. Калі сам іграю міліцыянераў, ваенных, нават бандытаў, часта галюся прама на пляцоўцы, – распавёў **Аляксандр Мантурэвіч**, брыгадзір па масоўцы ў «Чарнобылі».

Акцёры, якія запісваліся на масавыя сцэны, часта не прыходзілі.

– Звычайна мы абыходзімся тымі, хто прыйшоў, можам узяць людзей з вуліцы, нават самі іграем. Практычна ўся група здымаецца ў кіно – ад буфетчыкаў да асістэнтаў па акцёрах, – падзяліўся Аляксандр Мантурэвіч.

Адказны па акцёрах другога плана ў карціне «Чарнобыль» **Віталь Кулікоўскі** дзеля фільма ездзіў у Маскву. Менавіта ён дамовіўся, каб серыял здымалі разам з мінскім кастынгавым агенцтвам.

Фільм выйдзе на экраны ў 2019 годзе.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Ты мой брат...

## Згадваючы настаўніка з Маладзечаншчыны **Міколу Вайду**

### Усім беларускім настаўнікам, якія марылі аб вольнай Беларусі, прысвячаецца

**Ужо колькі дзён не відаць сонейка. Неба зацягнутае коўдраю хмар, і толькі халодны шэры дождж сыплецца па раз'езджанай дарозе, саламяных дахах прыземленых хатак, вакенцах мясцовай школы.**


Фота забяспечанае Сяргеем Лескецем.

На гэтым месцы ў Шыкаве знаходзілася школе, дзе працаваў Мікола Вайда.

#### Цікавыя ўрокі ад «Дзядзькі Каліласка»

Не так даўно такім жа надвор'ем вучні пераносілі з былой заскаўскай сямігодкі, дзе размясціліся нямецкія жаўнеры, свой невялікі школьны рыштунак. Зараз яны сядзяць ва ўтульным светлым пакоі, дзе навакольную халадэчу саграе сяброўская атмасфера, прага да ведаў, размаляваныя птушачкамі і валошкамі сцены, выява «Пагоні».

Ідуць заняткі па беларускай літаратуры. Малады хлопец, нядаўні выпускнік настаўніцкай семінарыі ў Вільні, чытае верш свайго ўлюбёнага паэта Алеся Гаруна:

*Ты мой брат,*
*каго зваць беларусам*
*Роднай мовы сваёй*
*не цурайся.*
*Як не зрокся яе*
*пад прымусам*
*Так і зараз яе*
*не зракайся...*

Чытае выразна, узнёсла. Позіркам сваіх блакітных вачэй дорыць дабрыню і веру, надзею ў беларускую будучыню.

Дзядзька Мікола, ці «дзядзька Каліласка», як яго жартам называлі дзеці, выкладае толькі на роднай мове цікава і змястоўна, што дзіўна, чаго не было ні ў польскай, ні ў савецкай сямігодцы, ды да сваіх вучняў ён адносіцца з павагай, па-сяброўску.

Быў ён з мясцовых. Жыў за Вяллёй ля Залесся. Адсюль кожны дзень прыходзіў выкладаць спачатку ў Заскавічы, а як перанеслі школу – у Шыкава.

І гэта ў час Другой сусветнай вайны, калі дома хапала працы па гаспадарцы, савецкія партызаны распачыналі паляванне на беларускіх настаўнікаў, калі за адно слова «незалежнасць» або «вольная Беларусь» любы з акупантаў мог не задумваючыся расстраляць.

#### Любіў Беларусь і верыў у яе будучыню

У чым была непаўторнасць заняткаў, адкуль бралася патрыятычная атмасфера, узаемная павага, што праз паўстагоддзя былыя вучні ўспамінаюць добрым словам дзядзьку Міколу і па памяці чытаюць верш, які быў забаронены на працягу ўсёй савецкай гісторыі?

Адказ відавочны – **Мікола Вайда** быў настаўнікам ад Бога, ён любіў Беларусь, верыў у яе будучыню і працаваў дзеля яе. Яшчэ не так даўно ён сам сядзеў за партай, слухаў лекцыі знакамітых выкладчыкаў Віленскай настаўніцкай семінарыі, дыскутаваў з гаспадаром кватэры **Усеваладам Більдзюкевічам**, разам з аднавяскоўцам **Віцем Казлоўскім** частаваўся салодкай гарбатай з хлебам і марыў аб тым часе, калі сам зможа выкладаць як **Франук Грышкевіч**, **Адольф Клімовіч**, **Янка Шутовіч**, **Станіслаў Грынкевіч**, калі зможа выхоўваць у сэрцах вучняў любоў да Радзімы. Таму і намагаўся як мага хутчэй скончыць вучобу, каб цалкам аддацца гэтаму занятку.

Шкада, што так трагічна і недарэчна склаўся яго лёс. Жаданым госцем Мікола быў запрошаны на вяселле, дзе ў самы разгар свята хтосьці пабіў ліхтар. Немцы палічылі гэта за дыверсію партызанаў і пачалі стральбу. Адна з куль патрапіла ў Вайду.

#### Нязгодных кляймілі здраднікамі і калабарантамі

Мікола Вайда быў не адзіным, хто аднавіў і рабіў школу беларускай, хто сярод попелу вайны выхоўваў у вучняў любоў і патрыятызм, маральнасць і традыцыйныя каштоўнасці. У заскавіцкай школе яму дапамагаў настаўнік **Каляда**, ды і яго лёс пасля закрыцця школы невядомы.

Тыя, хто пачэсна заслужыў пашану, як непрыгодных для савецкай улады, кляймілі здраднікамі і калабарантамі, рэпрэсавалі і вывозілі ў шматлікія ГУЛАГі. Хоць на працягу ўсёй вайны двух страшнейшых таталітарных рэжымаў яны змагаліся толькі жывым беларускім словам, беларускай кнігай...

Спадзяюся, прыйдзе час, калі заслугі гэтых настаўнікаў будуць па праву ацэнены. Мы паважаем іх жыццё за прыклад ахвярнай працы на карысць Айчыны і памятаем пра іх. А памяць – гэта найлепшая ўзнагарода.

**Сяргей ЛЕСКЕЦЬ.**

# Валожынцы набылі дом, які аказаўся даваенным яўрэйскім складам

ВАЛОЖЫН

**Пару месяцаў таму Алена і Ігар Крэйнісы набылі дом у Валожыне. Пачалі рамонт. Знялі пластыкавыя пліткі са столі і… зразумелі, што іх набытак мае багатую гісторыю.**

«Родная» столь дома была складзеная са старой чырвонай цэглы, да таго ж няроўна, а ў выглядзе невялікіх арак.

Незвычайнай аказалася і падлога. Калі яе пачалі разбіраць, не адразу змаглі выцягнуць вялікі каваныя цвікі, якім дакладна не два і не тры стагоддзі.

Крэйнісы, а асабліва іх дачка **Арына**, зацікавіліся гісторыяй дома. А раптам звычайна на першы погляд дом у цэнтры Валожына неяк звязаны з родам **Тышкевічаў**, прадстаўнікі якога ад 1803 года валодалі мястэчкам?

Новыя гаспадары звярнуліся ў мясцовы гісторыка-краязнаўчы музей, БТІ, да суседзяў, былых гаспадароў дома. У БТІ паведамілі, што як жылая пабудова дом пачаў выкарыстоўвацца адносна нядаўна – у пачатку 1980-х гадоў. Да Крэйнісаў тут паспела пажыць настаўніца аднай з валожынскіх школ, а таксама сям'я мясцовай журналісткі **Наталлі Штэйнер**. Але былыя гаспадары нічога пра гісторыю дома не ведалі.

Зусім выпадкова дапамог сусед сталага веку. Ён распавёў Крэйнісам, што да Другой сусветнай вайны ў Валожыне, як і шматлікіх беларускіх мястэчках, жыло шмат гандляроў-яўрэяў. Па яго словах, менавіта ў цэнтры горада былі склады яўрэйскіх дзялкоў, па-сучаснаму, прадпрымальнікаў. У доме, які набылі Крэйнісы, быў склад збожжа. І бацька суседа да вайны працаваў там вартаўніком.

Гіпотэзу пра стары збожжавы склад пацвердзіла яшчэ адна знаходка. У сцяне паміж двума вокнамі **Алена** з **Ігарам** заўважылі нешта падобнае да каміна з арачнай кладкай. Сталі шукаць комін, куды павінны быў выходзіць дым, але не знайшлі. Калі сцяну разгледзелі лепш, аказалася, што ў ёй дзверцы. Верагодна для загрузкі або выгрузкі збожжа.

Сям'я лічыць, што даведацца атрымалася пакуль няшмат, і пошукі не спыняе. З новымі адкрыццямі абяцалі дзяліцца з «Рэгіянальнай газетай».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● КАЛЯНДАР

28 ЛІПЕНЯ

**1812.** Нарадзіўся **Юзаф Ігнацы Крашэўскі** (Варшава), польскі пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч. Апісваў свае падарожжы па Беларусі, побыт яе жыхароў.

**1897.** Памёр **Янка Лучына** (сапр. Янка Неслухоўскі), паэт. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

30 ЛІПЕНЯ

1840. Расійскі цар Мікалай I выдаў указ, які забараняў назву «Беларусь». Загадвалася называць беларускія землі «Северо-Западный край».

**1941.** У вёсцы Малая Кавалеўшчына (Мёрскі раён) гітлераўцамі расстраляны **Фларыян Манцэвіч**, грамадскі дзеяч, педагог. Нарадзіўся ў 1890 годзе ў мястэчку Іказнь, цяпер Браслаўскі раён.

31 ЛІПЕНЯ

**1903.** Сёлета спаўняецца 115 гадоў з часу першага апублікавання ананімнага вершаванага твора беларускай літаратуры 19 стагоддзя «Гутарка пана з хлопам» («Як маешся, Сцяпане…»). Мяркуючы па змесце, твор гэты з'явіўся пасля скасавання паншчыны, бо селянін на пытанне пана, чаму яго жонка Дарота не прыходзіць у двор, дзе добра плацяць за работу, адказвае: «Ужо панскі хлеб дакучыў, як пан нас добра мучыў». Да нас дайшоў, відаць, пачатак «Гутаркі…». Апублікавана было А. Федароўскім у кнізе «Люд беларускі».

*– Як маешся, Сцяпане?*
*– Аджыў,*
*найяснейшы пане!*
*– Чаму твая Дарота*
*Не прыходзіць да мяне*
*на работу?*
*Сушыць, грабіць*
*пільна трэба,*
*Дам пянёндзы,*
*дам і хлеба.*
*– Ужо панскі хлеб*
*дакучыў,*
*Як пан нас добра мучыў,*
*Добра паны гандлявалі –*
*Слугі на сабак мянялі.*

**1649.** Адбылася бітва пад Лоевам, паражэнне 15-тысячнага казацкага войска на чале з Міхалам Крычаўскім ад войск Вялікага Княства Літоўскага на чале з Янушам Радзівілам.

1 ЖНІЎНЯ

**1914.** Пачалася Першая сусветная вайна.

**1994.** Памёр **Восіп Блізнюк**, удзельнік антысавецкага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргоні, вязень савецкіх канцлагераў. Пахаваны ў Смаргоні.

**1840.** Расійскія ўлады скасавалі дзеянне на тэрыторыі Беларусі Статута Вялікага Княства Літоўскага.

**1549.** Нарадзіўся **Мікалай Крыштаф Радзівіл** Сіротка, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, падарожнік-мемуарыст.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# «Крывіцкія курганы» ў Нясцёрках

## Чым жыве археалагічны летнік і чаму ён пераехаў з Нясцёрак у Наўры?



Фота Паўла ХАВАНСКАГА.

Юныя ўдзельнікі экспедыцыі у пошуках.

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

**Першыя намёты ў лесе ля Нясцёрак з'явіліся 16 ліпеня. Менавіта тады вілейская суполка Таварыства аховы помнікаў імя Аляксея Лужынскага разбіла тут археалагічны летнік. На беразе Вілейскага вадасховішча ён прастаяў да 20 ліпеня.**

### «Ніколі не адгадаеш, курган гэта ці не, пакуль яго не раскапаеш»

Першае, што бачылі ўдзельнікі экспедыцыі – некалькі ўзгоркаў сярод лесу, парослых імхом і дрэвамі. Перад пачаткам раскопак навукоўцы меркавалі, што гэта крывіцкія курганы, якія з'явіліся ў канцы першага – пачатку другога тысячагоддзя нашай эры. Для таго, каб праверыць, ці праўда гэта і ці засталося нешта ад старажытных пахаванняў, і з'явіўся археалагічны летнік.

Ужо ў першыя дні раскопак у навукоўцаў узніклі сумневы ў тым, ці сапраўды ўзгоркі можна назваць курганамі. Праз некалькі дзён даследаванняў меркаванне было ўжо адзінагалоснае – пад Нясцёркамі знаходзяцца не курганы, а звычайныя ўзгоркі прыроднага ўтварэння.

– У археалогіі такое бывае: пакуль не зазірнеш пад слой зямлі, дакладна не скажаш, якога паходжання ўзгоркі, – кажа навуковы кіраўнік летніка, кандыдат гістарычных навук, дацэнт **Мікалай Плавінскі**. – Пасля таго, як мы скончылі даследаваць Нясцёркі, вырашылі перавезці летнік на Мядзельшчыну, у Наўры. Гэта больш перспектыўнае месца, дзе ўжо былі экспедыцыі і раскопкі.

Увечары 20 ліпеня арганізатары летніка і валанцёры ўжо ставілі намёты на Мядзельшчыне. Летнік, арганізаваны вілейскай суполкай ТАП, будзе працаваць тут да канца месяца. Ад пачатку жніўня ў Наўрах запрацуе наступны летнік, таксама пад кіраўніцтвам Мікалая Плавінскага.

Мы ж наведаліся ў летнік яшчэ тады, калі ён пачынаў працу ў Нясцёрках, каб адчуць на сабе атмасферу раскопак.

### «Спадзяванні для археолага – так сабе занятак»

– Раскопкі на Мядзельшчыне і Вілейшчыне я праводжу з 2012 года, – распавядае Мікалай Плавінскі. – У Наўрах у нас стацыянарная экспедыцыя. А ў Нясцёрках мы першы раз. На нейкі час гэты летнік стаў базай для даследаванняў на тэрыторыі Вілейскага раёна.

Некаторыя курганныя могільнікі ў рэгіёне ўжо былі даследаваныя – напрыклад, Сосенкі і Касцы ў Вілейскім раёне. Першыя даследаванні там пачаліся яшчэ ў сярэдзіне 19 стагоддзя падчас экспедыцый **Канстанціна Тышкевіча** па Віліі. Але шмат яшчэ тых, да якіх археолагі не дабраліся.

– Новыя помнікі – гэта заўжды цікава, – падсумоўвае археолаг. – Ці ёсць нейкія спадзяванні наконт гэтага летніка? Агулам спадзяванні для археолага – гэта так сабе занятак. Адзінае наша спадзяванне – што не будзе хаця б два тыдні дажджу.

**На месцы раскопак збольшага пануе цішыня. Валанцёры засяроджана працуюць рыдлёўкамі. Курганы падзелены на ўчасткі, на кожным з якіх працуе група валанцёраў.**

– Трэба асцярожна здымаць рыдлёўкай слой за слоем зямлі, – тлумачыць **Вікторыя Макоўская** і пры гэтым спрытна адкідвае рыдлёўкай кавалак зямлі. Дзяўчына прыехала на раскопкі з Мінска. – Калі раптам мы заўважым нешта незвычайнае, то паклічам археолагаў і разам вырашым, што рабіць далей. Але тут, у Нясцёрках, такіх сітуацый не было.

Частка валанцёраў – гэта студэнты ці выпускнікі археалагічных факультэтаў.

– Мы прыехалі на раскопкі з Мінска, – кажа **Васіль Васільеў**. – Вось капаем курган. Тут павінна быць пахаванне. Хаця не ведаю, каму яно што павінна, але мы спадзяёмся яго знайсці.

Аднак не ўсе ўдзельнікі раскопак падзяляюць такі аптымізм.

– Не ведаю, ці адкапаем мы што, – кажа **Лёша Астрэлін** з Вілейкі. – Ля маёй вёскі археолагі таксама раскопвалі курганы і нічога не знайшлі. Гэта было паміж Заазер'ем, Любоўшамі і Ляскамі.

Нягледзячы на розныя спадзяванні, валанцёры працягваюць працу. Асноўныя работы ідуць да абеду. Пасля яго ахвотныя зноў вяртаюцца на раскопкі.

### «Костак я не баюся, а вось чарапоў – так!»

У першыя пяць дзён летніка да валанцёраў далучыліся дзяўчаты і хлопцы з турысцкага клуба «Чарапашкі». Пад наглядам кіраўніка, турыста і краязнаўцы **Міхася Петуха** яны ўдзельнічалі і ў раскопках, і ў прыгатаванні абедаў для ўсёй групы.

– Мяне мама не баіцца ў такія паходы адпраўляць, яна добра ведае нашага кіраўніка, – кажа **Паліна Капцюг**. – Раней мы і на дзевяць дзён хадзілі, так што пяць – гэта няшмат.

У свае 11 гадоў яна адна з самых малодшых удзельнікаў раскопак.

Дзеці занятыя цэлы дзень: чысцяць бульбу або наразаюць гародніну для салатаў, мыюць посуд або збіраюць смецце. У хвіліны адпачынку паляна летніка ператвараецца ў акрабатычную арэну: тут і садзяцца на шпагаты, і становяцца ў мосцік, і робяць перавароты, – хто што ўмее. Засумаваць не дае і валейбольны мяч, які рэгулярна падае ў лужыны, а часам і ў талеркі тых, хто абедае побач.

Цікава, што цягам дня не ўбачыш нікога з дзяцей, хто б бавіў час з тэлефонам у руках. Затое даводзіцца бачыць шмат фіялетавых зубоў і пальцаў – для юных удзельнікаў экспедыцыі гэта абавязковая дэталь выгляду. Хто ж устаіць перад чарніцамі, якіх тут шмат недалёка ад летніка!

А кіраўнік не ўпускае моманту, каб навучыць сваіх гадаванцаў нечаму новаму.

– Вы навошта ваўкасць для мыцця посуду берацe? Хіба соды няма? – звяртаецца Міхась Петух да хлопцаў, якія сабраліся мыць талеркі пасля абеду. – Нельга, каб вада з мыйным сродкам трапіла ў

# аказаліся звычайнымі ўзгоркамі

## Шукаем адказы на месцы раскопак



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Аляксей Сюдак (злева) кіруе прыгатаваннем абеду.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

У Нясцёрках археолагі нічога не знайшлі.



Фота Паўла ХАВАНСКАГА.

Алесь Наркевіч з Вілейкі за працай.



Фота Паўла ХАВАНСКАГА.

Віталь Назарэвіч з Маладзечна.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Міхаіл Петух з Вілейкі.

раку, «хімія» там не раскладзецца і даплыве аж да Балтыкі. Бярыце соду, яна цудоўна ўсё адмые!

Акрамя гаспадарчых спраў, хлопцы і дзяўчаты спрабуюць сябе на раскопках.

– Мне вельмі спадабалася працаваць маленькай рыдлёўкай, якую мне далі, – кажа Паліна. – Пасля абеду абавязкова зноў пайду на раскопкі.

На пытанне, ці не баіцца яна раптам адкапаць чалавечыя парэшткі, дзяўчынка ўпэўнена адказвае:

**– Не, касцей я не баюся. Хаця… калі б гэта быў чэрап, то я спужалася б. І паклікала б дарослых адразу.**

### «Беларускіх кляшчоў не параўнаць з аўстралійскімі!»

У тыя дні, калі летнік яшчэ стаяў у Нясцёрках, раскопкі наведалі замежныя студэнты. **Міхал** з Польшчы, **Дзін** з Аўстраліі і **Селім** з Турцыі прыехалі ў адну з моўных школ Мінска, каб вучыць рускую мову. Падчас паездак па Беларусі хлопцы і вывучаюць краіну, і практыкуюцца ў рускай мове.

– Хлеб, сыр, колбаса, огурец, вода, – пералічвае ўсё, што бачыць на стале Селім. Для яго гэта новыя словы. – Чай. Очень вкусный чай! – дадае ён, пакаштаваўшы чай, завараны ў вядры над кастром.

І хоць выезд на прыроду супаў з дажджамі, гэта не сапсавала ўражанні гасцей ад летніка.

– Тут вельмі цікава, я сустрэў у Нясцёрках шмат добрых людзей, – кажа Міхал, які прыехаў у Беларусь з-пад Ольштына. – Тут толькі мы, цішыня і прырода. Мне падабаецца.

– Цікава было паспрабаваць сябе ў ролі «чалавека з рыдлёўкай», – дадае выкладчыца рускай мовы **Ніна Маркоўская**, якая прыехала разам са сваімі вучнямі. – Здорава бачыць зацікаўленых людзей, у тым ліку дзяцей! Відаць, што ў летніка добрая арганізацыя.

**Перад паездкай у лес замежнікі атрымалі грунтоўны інструктаж, асабліва наконт небяспекі змей і кляшчоў.**

Аднак для аўстралійца Дзіна яны гучалі зусім не страшна.

– У нас у Аўстраліі ёсць кенгурыныя кляшчы. Яны вельмі вялікія і могуць кусаць чалавека. Вось гэта сапраўды страшна! Вашы беларускія з імі не параўнаюцца, – кажа хлопец.

Госці правялі ў Нясцёрках цэлы дзень і паспелі знайсці агульную мову з валанцёрамі. Дакладней, некалькі моў: замежнікі не толькі даведваліся новыя рускія словы, але вучылі беларусаў англійскай і польскай. І словы «thank you» ад Паліны на развітанне з Дзінам якраз пацвердзілі, што дзень для ўсіх прайшоў з карысцю.

Тым часам археалагічны летнік, цяпер ужо ў Наўрах, будзе стаяць і ў жніўні, таму далучыцца да яго хоць на адзін дзень можа любы ахвотны. Добрая кампанія, новы досвед, навыкі археолага, смачныя абеды і цудоўная прырода навокал вам гарантаваныя, праверана на сабе!

Збіраючыся ў лес – на археалагічныя раскопкі ці проста па грыбы, – не забывайся аб правільным адзенні і бяспечных паводзінах. Як паказвае досвед карэспандэнткі «РГ», кляшча можна прывезці на сабе нават тады, калі прыязджаеш у лес, каб падрыхтаваць матэрыял. Усё скончылася добра: вілейскі клешч быў паспяхова абясшкоджаны ў бальніцы, а карэспандэнтка вярнулася да напісання тэксту. Аднак не паўтарайце нашых памылак, беражыце сябе!

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Адзін паход замяняе прыкладна два месяцы працы ў зале

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

**У ліпені наведнікі фізкультурна-спартыўнага клуба «Гладыятар» прыйшлі з чарговага паходу. Штогод яны адпраўляюцца туды два ці тры разы.**



Фота зафіксаванне Сяргея ПАНЦЮХОВЫМ.

Падчас паходу дзеці трэніруюцца.

Падчас паходаў дзеці трэніруюцца – займаюцца ўшу, кікбоксінгам, тайландскім боксам. Апошні паход быў 46-м па ліку. У ім удзельнічалі дзеці з Маладзечанскага і Вілейскага раёнаў.

– Звычайна мы ідзём 30-35 кіламетраў пешшу. У апошнія гады наведваем Вілейскае вадасховішча, але калі-нікалі мяняем маршрут. За дзень прыходзім на месца, ставім палаткі і пачынаем трэніроўкі. Гэта доўжыцца шэсць дзён. Затым вяртаемся дадому, – расказвае трэнер клуба **Сяргей Панцюхоў**.

Ходзяць толькі ўлетку. Кантынгент мяняецца, сярэдні ўзрост дзяцей – 10-12 гадоў. Самаму маленькаму ў другім паходзе было шэсць гадоў. Сяргей прызнаецца, што стараецца не браць такіх маленькіх – ім цяжка.

– Раней я вадзіў усіх, хто хоча, але прыйшоў да высновы – калі браць без разбору, пачынаецца глупства. Палова ўцякае, нехта просіць маці забраць іх. У апошнія гады дзяўчынак і хлопчыкаў звычайна ходзіць аднолькавая колькасць, – распавядае трэнер.

Іншым разам дзеці ідуць у паход без падрыхтоўкі. У другім былі дзяўчынкі-блізняткі – 9-гадовыя **Віялета** і **Ангеліна Аборскія**. Але яны не плакалі і дадому не прасіліся.

У кожным паходзе сёлета было па 14 дзяцей. У першы хадзілі афіцыйна ад аддзела спорту, атрымалі фінансаванне. Другі аплачвалі самастойна.

### Чым дзеці займаюцца ў паходзе

Графік трэніровак насычаны. Адразу пасля пад'ёму яны бягуць крос – звычайна сем-восем кіламетраў. Потым паўтары гадзіны адпачываюць і ідуць на трэніроўку. Яна доўжыцца прыкладна столькі ж. Пасля вольнага часу зноў трэніроўка – ужо гульнявая. Трэцяя адбываецца ўвечары. Акрамя гэтага раз за паход праходзіць марш-кідок.

– Цікавая рэч. Бяжым па лесе, па балоце, па кустах, па шыю ў гразі. Хто адзін раз бегаў, больш не хоча. Адзін паход па колькасці трэніровак параўнальны прыкладна з двума месяцамі працы ў зале. Тыя, хто схадзіў хоць раз, падымаецца на спартыўнай лесвіцы на прыступку. Хлопцы становяцца ўпэўненымі. Некалі дзяліліся са мной, маўляў, пайшлі ў школу пасля паходу і распавялі, што вытрымалі 30 кіламетраў. Аднакласнікі не верылі, казалі, гэта немагчыма, – смяецца Сяргей

### Ідэя паходаў дасталася ў спадчыну

Бацька Сяргея таксама быў трэнерам. Займаўся з дзецьмі боксам, а пасля кікбоксінгам і ўшу. Яшчэ вёў турызм. Лепшых навучэнцаў вадзіў нават у Карпаты. Сяргей перахапіў ідэю ад бацькі. Сам першы раз апынуўся ў паходзе ў пяць гадоў. Давялося дзесяць кіламетраў ісці да Вілейскага вадасховішча.

– Асабіста я хаджу з дзецьмі ў паходы ад 1999 года. Раней мы наведвалі Беражок, што ў Вілейскім раёне. Аднойчы паехалі на роварах на Свірскія азёры. Але не спадабалася: і мясціны незнаёмыя, і далёка, і ўвесь час нешта ламалася. Таму цяпер толькі пешшу. Часам трапляюцца прыгожыя месцы, якія для трэніровак нязручныя.

У першых паходах даводзілася цяжка. Нават за вадой ішлі тры-чатыры кіламетры ў вёску, да калодзежа. Спачатку цягалі яе ў вёдрах, потым – на тачцы. Цяпер ваду прывозяць на машынах.

**Звычайна да паходу далучаюцца бацькі. Некаторыя з'язджаюць працаваць і вяртаюцца штодня. Ім падабаецца самім. Часам ходзяць трэнеры іншых дзіцячых калектываў.**



Ангеліна Аборская, удзельніца паходу, з бультэр'ерам Оклі.

– Цяпер класна, я купіў генератар, можна зарадзіць тэлефоны і відэакамеру, на якую я здымаю трэніроўкі. Досыць цікава паглядзець на сябе дзесяцігадовай даўніны, – смяецца трэнер. – Хоць мабільнікі ёсць не ва ўсіх – бацькі натуральна не дазваляюць іх браць. Дзіця можа адпрацаваць раўнд, кінуць пальчаткі і пабегчы да мабільніка, каб пагуляць.

### Што трэба браць у паход

Спіс рэчаў, якія трэба браць у паход, аб'ёмны. Але дзеці нясуць толькі неабходнае – вопратку, прадукты. Астатняе – палаткі, турыстычныя дыванкі, спальныя мяшкі – загадзя завозяць на машыне.

Калі вы сам-насам вырашылі пайсці ў паход, у першую чаргу трэба ўзяць карту і загадзя прадумаць маршрут. Па-другое, абавязкова каб было зручнае адзенне і разношаны абутак. З абсталявання неабходныя палатка, спальны мяшок, турыстычны дыванок, каб не змерзнуць. Сяргей распавёў, што аднойчы ўлетку яму давялося больш за месяц жыць у спальніку.

А яшчэ патрэбная рыдлёўка – вогнішча робяць у яме. Палатка можа падцякаць знізу, яе рэкамендуюць абкапаць па перыметры. Калі гэтага не зрабіць, затопіць усіх, папярэджвае трэнер. Вядома, трэба падумаць пра ежу і ваду.

– Мы бралі тушонку, хлеб, батон, муку, макарону, цукар, соль, гародніну. Нават бліны рабілі. Канешне, неслі посуд – кацялок, кубкі, лыжкі, – дзеліцца досведам трэнер.

Трэба стойкі для вогнішча – на іх вешаюць кацялок, запалкі, каб развесці агонь. Нашы турысты даўно сабе зварылі такія стойкі. Пажадана мець тэнт, які нацягваюць над вогнішчам.

У аптэчку абавязкова павінны ўваходзіць бінт, вата, ёд, градуснік, пластыр, актываваны вугаль і жгут.

### Сабака – надзейны ахоўнік

Прыкладна чатыры гады запар з намі ездзіць бультэр'ер Оклі, сабака нашых навучэнцаў. Бяром яго на ўсялякі выпадак, ці мала хто прыйдзе, – распавядае Сяргей, – а так надзейная ахова, хоць і байцоўская, але добрая. Увогуле на Вілейскім шмат жыўнасці. Сёлета бачылі вожыкаў, казуль, бабры плаваюць, андатры, птушак шмат. Летась сустракалі ласёў і кабаноў. Даведаліся, што аднаму лебедзю можна скарміць цэлы бохан хлеба.

**Таццяна КАСЬЯН.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Старажытная кідальная зброя.
4. Маці жонкі.
5. Сталіца Латвіі.
7. Страва, якой прысвяцілі нядаўні фэст на Вілейскім вадасховішчы.
8. Горад у рэгіёне, які быў вядомы абаранкамі.
11. Майстар, які робіць валёнкі.
13. Яго скульптуру паставілі нядаўна ля каледжа ў Вілейцы.
15. Аўтар паэтычнага слоўніка, ураджэнец Ракава.
16. Паганскі бог, абаронца свойскай жывёлы.
17. Мястэчка на Маладзечаншчыне, колішнія ўладанні Радзівілаў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Штучны насып для засцярогі мясцовасці ад затаплення.
3. Зварот ветлівасці, пажаданне нанач.
6. Стыль і кірунак у літаратуры і мастацтве на мяжы 18-19 стагоддзяў.
9. Прыродны чырванавата-фіялетавы фарбавальнік, які здабываюць з малюскаў.
10. Хвароба, якая перадаецца ад хворай жывёлы да чалавека праз сліну.
12. Выключная рэдкасць, што ўяўляе сабой музейную каштоўнасць.
14. Разнавіднасць фартэпіяна.

## Адказы на крыжаванку з №29

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Медуніца. 2. Планет. 6. Лыжка. 7. Юркі. 10. Лаўка. 11. Варвар. 14. Газета. 15. Гаворка. 16. Санітар. 19. Левітан. 20. Тканкі. 21. Самота. 25. Смерць. 26. Самабытны. 30. Гладыш.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Лязг. 4. Ліхтар. 5. Карэніна. 8. Вуха. 9. Карані. 12. Варняны. 13. Лянота. 16. Святлафор. 17. Верасень. 18. Калізей. 19. Лорд. 22. Салідарнасць. 23. Сакавіты. 24. Конь. 27. Пчолы. 28. Галёнка. 29. Геній.

## ● ГАРАСКОП 27 ЛІПЕНЯ-2 ЖНІЎНЯ

**АВЕН.** Не будзьце празмерна гарачыя ў справах, не рабіце паспешных высноў і ўслед за імі паспешных дзеянняў, бо гэта можа лёгка разбурыць сямейную ідылію, якая толькі што ўсталялася.

**ЦЯЛЕЦ.** Вы праяўляеце неўласцівую вам легкадумнасць, зусім не жадаеце паглыбіцца ў сутнасць рэчаў і зразумець, чаму адно ідзе за другім. Вы працягваеце прымаць рашэнні, яшчэ больш хуткія і менш абдуманыя. Да чаго гэта прывядзе – залежыць ад сілы вашай інтуіцыі.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вы знаходзіцеся ў цяжкім становішчы і самастойна з яго вам не выбрацца. Магчыма, прыйдзецца прыцягнуць чалавека з боку, які ўсё паставіць на свае месцы. Але ад гэтага вам не стане лягчэй, бо вы не жадаеце радавацца таму малому, што маеце, звяртаеце ўвагу толькі на тое, чаго ў вас няма.

**РАК.** Вы поўныя ідэй і рашучасці іх рэалізаваць. Калі вы вырашылі нешта змяніць у сваім жыцці, асабліва звязанае з інтэлектуальнай сферай, то гэтыя дні лепш за ўсё падыходзяць для такіх пачынанняў. Вынік – поўнае эмацыйнае задавальненне.

**ЛЕЎ.** Вы празмерна патрабавальныя і да сябе, і да навакольных. Ваш дыктатарскі падыход не пакідае месца эмоцыям і пачуццёваму прыманню сітуацыі. Выбар паміж загадам і просьбай для вас будзе вельмі важны на гэтых днях.

**ДЗЕВА.** Усё ў вашых руках, але вы ўпарта не жадаеце гэтага прызнаваць. Вы самі сябе звязваеце па руках і нагах, не дазваляючы сабе нияк уплываць на сваё жыццё. Памятайце: вы можаце дасягнуць усяго, калі будзеце да гэтага імкнуцца.

**ШАЛІ.** Цяпер у гарманічным спалучэнні знаходзіцца эмацыйная і дзелавая сфера, што дазваляе вырашаць пытанні не толькі працоўнага толку, але і справы сямейныя.

**СКАРПІЁН.** Час спрыяльны для любых пачынанняў, звязаных з фінансамі. Калі пераадолееце ўнутраныя сумненні, якія на дадзены момант скоўваюць вас мацней за любыя знешнія перашкоды, выберыце свой шлях і пачняце дзейнічаць, то дасягнеце поспеху.

**СТРАЛЕЦ.** Для вас цяпер лепшы спосаб дзеяння – адпачынак. Гэта перыяд, калі сітуацыя ідзе не так, як вам таго можа хацецца. Дачакайцеся лепшага моманту для дзеянняў.

**КАЗЯРОГ.** Супакойцеся і расслабцеся, цяпер вам не трэба прымаць нейкіх рашэнняў, спрабаваць камусьці нешта даказваць. Вам неабходна адпачываць і радавацца таму, што вы на дадзены момант маеце, а гэта не так ужо і мала. Вас будуць акружаць дамашняя ўтульнасць і эмацыйная стабільнасць.

**ВАДАЛЕЙ.** Гэтыя дні спрыяльныя для развіцця адносінаў, з'яўлення новых знаёмстваў. Вы поўныя пачуццяў і памкненняў, і ваш эмацыйны парыў знаходзіць адлюстраванне ў навакольным свеце. Будзьце эмацыйныя і таварыскія, і гэта дазволіць вам знайсці доўгачаканае каханне.

**РЫБЫ.** Не варта лавіць лёс за хвост, трэба дачакацца, каб ён сам павярнуўся да вас тварам. У вашым жыцці наступае такі момант, калі лёс сам вядзе вас па шляху, які вядомы толькі яму, а вам трэба толькі смела ісці і не аглядвацца па баках.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 7 | 5 | | | | 8 | 1 |
| 3 | 2 | 6 | | | | | | |
| 8 | 1 | | | | | | 6 | 4 |
| | 6 | 8 | | | | 1 | | |
| | 3 | | | | | 9 | 2 | |
| 2 | | 9 | | 1 | | | 4 | |
| 5 | | 3 | | 7 | | 4 | | |
| | | | 8 | | | 5 | 3 | |
| | | | 4 | | | | 7 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

## У Валожыне будзе працаваць летнік для людзей з асаблівасцямі

**ВАЛОЖЫН**

Ад 14 да 18 жніўня пад Валожынам будзе працаваць інтэграцыйны летнік.

«Тут мы зоймемся ўладкаваннем інклюзіўнай прасторы на экалагічнай сцежцы «Белакорац», прасунем крэатыўнасць, забавім эка-арт, графіці і падрыхтуем музычны фэст», – абяцаюць арганізатары.

Удзельнікі лагера будуць жыць у намётавым мястэчку на беразе Іслачы. Усіх забяспечаць зручным спальным месцам, трохразовым харчаваннем, цікавымі карыснымі заняткамі і зручным транспартам у два бакі.

Запрашаюць маладых людзей з асаблівасцямі, якім ужо ёсць 18 год, хто мае надзейнага суправаджальніка (пры неабходнасці) і запоўніць анкету.

**Аддзел інфармацыі.**

## Свята-конкурс у Ашмянскім раёне

**АШМЯНЫ**

Яно адбудзецца 29 ліпеня.

Пачатак а 15-й.

У праграме:

• конкурс «Давай пазнаёмімся»;

• канцэртныя праграмы камандаў Каменналогскага і Крэйванцаўскага сельсаветаў;

• выстава-конкурс падворкаў гаспадарак аграгарадкоў;

• дзіцячыя і дарослыя гульнявыя праграмы;

• выстава дзіцячай творчасці;

• футбольны матч;

• работа гандлёвых палатак, дзіцячых атракцыёнаў і іншае.

## Запусцілі дабрачынную акцыю «Хутка ў школу»

**ВІЛЕЙКА**

Збяруць школьныя канцылярскія прылады для малазабяспечаных сямей.

Прыняць удзел запрашаюць кіраўнікоў прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці, ІП і неабыякавых жыхароў раёна. Ініцыятары з удзячнасцю прымуць любыя школьныя прыналежнасці, а таксама партфелі, новы абутак і вопратку для школьнікаў. Аказаць дапамогу можна некалькімі спосабамі.

Напрыклад, купіць канцтавары і перадаць ва ўстанову (Вілейка, вуліца Партызанская, 44, кабінет 4).

Або з дапамогай спецыялістаў цэнтра з банка дадзеных выбраць сям'ю, атрымаць спіс неабходных канцылярскіх тавараў і перадаць гэтай сям'і самастойна.

Ці перавесці грошы на дабрачынны рахунак Вілейскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва з пазнакай «Хутка ў школу».

Акрамя гэтага, у рамках акцыі арганізуюць школьны базар, дзе шматдзетным сем'ям будзе 10-працэнтная скідка на школьную вопратку, заплечнікі і абутак, на канцтавары. Купон на зніжкі можна атрымаць у ТЦСАН.

Акцыя будзе доўжыцца да 31 жніўня. Тэлефоны для даведак: **5-69-14** і **2-18-33.**

Р а х у н а к : BY81AKBB36420632001076100000 у ЦБУ 632 Вілейкі, філіял №601 ААГ «АСБ Беларусбанк» Маладзечна УНП 600690567, код банка AKBBBY21601, атрымальнік – Вілейскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

**Аддзел інфармацыі.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

● НАДВОР'Е

28 ліпеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +19 | | +21 | | +20 | | +21 | |
| | +26 | | +28 | | +29 | | +25 | |
| | 732 | ↙ 4 | 741 | ← 6 | 742 | ← 6 | 745 | ← 5 |
| Вільня | +19 | | +21 | | +22 | | +22 | |
| | +26 | | +28 | | +29 | | +27 | |
| | 749 | ↙ 4 | 747 | ← 4 | 748 | ← 5 | 751 | ← 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 5.18
Захад 21.20
Даўжыня дня 16.02

Усход 21.43
Захад 05:40
Квадра 3




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +6,7°С у 2006 годзе
Максімальная тэмпература +31°С у 2012 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 20,9 мм у 2011 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● **Лета – традыцыйны час адпачынку хіба што для школьнікаў і некаторых студэнтаў. А вось у археолагаў – гэта самы напружаны час. Ледзь паспелі мы распавесці пра раскопкі ў Крэве і Нясцёрках, з'явіліся новыя знаходкі ў археолагаў, што працуюць на месцы шкляной гуты ў Ілы. Пра нацельны крыжык, загадкавы ключ і шпільку мясцовай прыгажуні чытайце праз тыдзень.**

## Правядзі дажджлівы летні дзень з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## На тэрыторыі былога Мядзельскага замка неабходны рамонт

МЯДЗЕЛ

**Сябры грамадскага аб'яднання «Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры» звярнуліся ў Мядзельскі райвыканкам па пытанні рамонту дашчанага пешаходнага насцілу на тэрыторыю былога замка.**

«У цяперашні час насціл прыйшоў у аварыйны стан, што не дазваляе патрапіць на тэрыторыю гісторыка-культурнай каштоўнасці ні адзінкавым наведнікам, ні турыстычным групам, у тым ліку на тэрыторыю помніка археалогіі не могуць патрапіць спецыялісты, якія займаюцца яго вывучэннем», – адзначаюць аўтары звароту.

Дакумент падпісаны старшынёй таварыства, членам Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь **Антонам Астаповічам**. Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» распавёў краязнаўца з Мядзела **Вадзім Праўрацкі**.

**Аддзел інфармацыі.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Які ваш ідэальны летні адпачынак?

**Уладзіслаў Гурштыновіч, студэнт:**
– Лета заўсёды хочацца правесці далёка ад дому. Я ўзяў бы машыну, сяброў і паехаў на мора.

**Галіна Купчык, прадавец:**
– З унукамі на дачы каля рэчкі.

**Данііл Мазалеўскі, студэнт:**
– Для мяне ён абавязкова на прыродзе. Я люблю актыўна адпачываць: раніцай займацца спортам, днём працаваць, вечарам купацца, а на захадзе сонца глядзець кіно.

**Іван Мірны, індывідуальны прадпрымальнік:**
– Ідэальны адпачынак – гэта час, праведзены з роднымі і блізкімі. І, безумоўна, паездкі на прыроду з сябрамі.

**Аляксандра Найдзіч, студэнтка:**
– Гэта час у добрай кампаніі, з сябрамі. Вось ужо праз тыдзень едзем усе разам на машыне адпачываць у Сочы.

**Ганна Шакель, студэнтка-лінгвіст:**
– Я люблю вандраваць, і гэта не абавязкова павінна быць замежжа, знаёміцца з новымі мясцінамі і людзьмі. І абавязкова пара лянівых дзён на пачатку адпачынку, каб набрацца сіл на летнія подзвігі, і пара напрыканцы, каб засумаваць і захацець на вучобу.

**Ангеліна Варатынская, студэнтка:**
– Мой летні адпачынак заўсёды розны. Я люблю выязджаць на прыроду з бацькамі на шашлыкі. Люблю летнія вечары з сябрамі, хадзіць у паходы і купацца. Я лічу, што добра адпачыць можна ўсюды, галоўнае – кампанія.

**Падрыхтавала Марыя КРУПСКАЯ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№30 (1213) 27.07.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 462. Падпісана ў друк у 9.00 25.07.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.